

# Ахова птушак Бацькаўшчыны




www.ptushki.org ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ | 3 (60) - 2016



## Сябры, вось і восень!

**Мы развітваемся з летам і з птушкамі, якія ляцяць у вырай. У нашай стужцы навінаў – кароткі агляд лета. На гэтай жа старонцы – нашы планы на восень. Залатая пара таксама будзе насычанай! Далучайцеся да нашых мерапрыемстваў і ладзьце ўласныя: будзем нагадываць людзям пра ахову дзікай прыроды разам!**


крапіўнік


сініца-апалоўнік


шэрая валасяніца


малы грычун

**81** **від** – столькі розных птушак трапілі ў аб'ектывы ўдзельнікаў IV Чэмпіяната па фотабёрдынгу, які адбыўся ў траўні ў Брэсце. Гэта рэкорд!

**57** **самцоў вяртлявых чаротавак на балоце Сэрвач і**
**160** **на балоце Дзікое** налічылі арнітолагі і валанцёры пад час чэрвеньскіх летнікаў.

**Валанцёры ад 20 да 56 год** выйшлі на бітву з хмызняком на Тураўскім лузе: цяпер яшчэ больш месца для кулікоў!

**30** **мільёнаў (3000 рублей)** – сабрана за вясну і лета на акцыю АПБ "Выратуй арляня!". Зладжаны дзве экспедыцыі на Палессе, знойдзены птушаняты і пагрозы для вялікіх арляцоў.

**Герой Валожына – зімародак** – афіцыйна абраны птушкай гэтага раёна. У яго гонар з'явіліся графіці ў Івянцы, два графіці і нават скульптура ў Валожыне.

**121** **від птушак** – новы рэкорд Чэмпіяната па спартыўнай арніталогіі Birdrace 2016. Каманда-пераможца "Rara Avis" адзначыла 121 від пад час 12-гадзіннай гонкі за птушкамі. Столькі ж відаў у гэтым годзе і ў каманды "Пагоня". Віншуем!

**400** **чалавек** – столькі людзей убачылі жураўлей на экскурсіях АПБ на фестывалі "Жураўлі і журавіны Міёрскага краю" ў верасні.

Больш навін – на сайце АПБ **www.ptushki.org**

## 1-2 кастрычніка лічым птушак разам на EuroBirdwatch-2016!

**Сябры, час рыхтаваць біноклі ды вызначальнікі! АПБ зноў запрашае да ўдзелу ў восеньскіх днях назіранняў за птушкамі – EuroBirdwatch-2016. Акцыя адбудзецца ў 23-ці раз і аб'ядна звыш 40 краінаў Еўропы і Цэнтральнай Азіі.**

### Навошта прымаць удзел у назіраннях?

EuroBirdwatch-2016 – добрая нагода правесці выхадныя на прыродзе ў "птушынай кампаніі", адчуць сябе часткай вялікай супольнасці аматараў дзікай прыроды, зрабіць свае ўласнае адкрыццё ці зарэгістраваць рэдкае для краіны назіранне. Выходзь на прыроду разам з намі!

### Як прыняць удзел?

Неабходна 1 ці 2 кастрычніка (можна і ў абодва дні) адзначыць усіх птушак, якія вам сустрэнуцца. Вызначыце віды птушак, іх колькасць, і перадайце інфармацыю ў АПБ да 16.00 у нядзелю, 2 кастрычніка.

### Як даслаць свае назіранні?

- праз онлайн-форму на сайце **www.ptushki.org/formaebw**
- даслаць паведамленне ў FB – **www.facebook.com/APB.BirdLife.Belarus** ці VK – **vk.com/ptushki**
- даслаць электронны ліст на адрас **info@ptushki.org**
- патэлефанаваць у офіс АПБ у нядзелю, 2 кастрычніка: +375 17 3697613, +375 29 1016887, +375 292230613.

**Усе, хто будзе весці падлікі ў групах ад трох чалавек і дашле свае назіранні ў час, прымуць удзел у розыгрышы вызначальніка "Птушкі Еўропы".**

## Птушка вылеціць 2 кастрычніка ў Мінску!

**Чарговы Чэмпіянат па фотабёрдынгу пройдзе пад час агульнаеўрапейскіх дзён назіранняў за птушкамі EuroBirdwatch-2016.**

Незвычайнае "прыроднае" хобі працягвае развівацца ў Беларусі: гэтай восенню пройдзе ўжо пяты Чэмпіянат па фотабёрдынгу.

Што трэба рабіць "спартоўцам"? За 5 гадзін сфатаграфаваць як мага больш розных відаў птушак. За кожны від удзельнік атрымлівае балы. Для таго, каб атрымаць максімальную колькасць балаў, неабходна не толькі зрабіць здымак, але і правільна вызначыць від птушкі.

### Дзе шукаць крылатых мадэляў?

Восенню ўдзельнікаў спаборніцтваў прымае сталіца Беларусі – Мінск. Думаеце, у вялікім горадзе няма птушак? А вось і няпраўда! Вадаёмы, паркі і скверы Мінска – дом для больш чым паловы ўсіх відаў птушак Беларусі. Арганізатары падрыхтавалі новае цікавае месца – Цнянскае вадасховішча. Прымай бёрдвочараў-фатографаў, Цнянка!

### Колькі можна "шчоўкнуць"?

Спаборніцтвы працягваюцца нядоўга – 5 гадзін. За гэты час у аб'ектывы фатографаў трапляюць каля 60 розных відаў птушак. Восень – час, калі шмат птушак адлятае ў вырай. Але можна зрабіць здымкі рэдкіх "госцяў" – птушак, якія ляцяць з поўначы транзітам.

### Я хачу ўдзельнічаць, што рабіць?

Запоўніце невялікую заяўку на сайце АПБ ptushki.org і дашліце на адрас levy@ptushki.org. Заяўкі прымаюцца да 20.00 30 верасня. Спяшайцеся, хутка вылеціць птушка!

## Як прайшлі EuroBirdwatch-2015?

У мінулым годзе нашая краіна заняла 3-е месца па колькасці ўдзельнікаў сярод 41 краіны. Тройку самых папулярных відаў склалі **шпак, шызы голуб і качка-крыжанка**. Сярод незвычайных назіранняў – **свяцец** на рыбгасе "Волма" (Мінская вобл.) і **вусатая сініца** ў вёсцы Вугляны (Брэсцкая вобл.).

Пад час EuroBirdwatch-2015 звыш 25 000 жыхароў Еўропы і Цэнтральнай Азіі назіралі за восеньскай міграцыяй. За гэты час яны налічылі звыш 4 млн птушак! **У нашай краіне ўзялі ўдзел 1796 чалавек, за выхадныя яны пабачылі амаль 21 000 асобінаў птушак 119 відаў.**

## Уваходзь у гісторыю EuroBirdwatch!

У гэтым годзе мы прапануем рабіць фотаздымкі, як праходзяць вашыя птушыныя выхадныя, і пазначаць іх хэштэгам **#ebw_apb**. Аўтары самых крэатыўных фота атрымаюць новыя паштоўкі і значкі ад АПБ.






# Ваўкоў не баяцца. У лес хадзіць.

**Колькі ваўкоў у Беларусі, ці сапраўдныя яны канкурэнты паляўнічым, як ваўкі пішуць даследчыкам СМС-паведамленні і чаму лес без воўка – несапраўдны лес?**

Наш разгорт пазнаёміць вас са значным прыродаахоўным праектам, які мы рэалізуем у Белавежскай пушчы. З 2013 года АПБ у партнёрстве з Нацыянальным паркам "Белавежская пушча" і пры падтрымцы Франкфурцкага заалагічнага таварыства (ФЗТ) ажыццяўляе праграму ў падтрымку запаведнасці гэтага самага старога лесу ў Еўропе. **Запаведнасць – гэта максімальнае неўмяшанне чалавека ў жыццё дзікай прыроды. Гэта найбольш дзейсная магчымасць захаваць прыроду або аднавіць парушаную экасістэму.**

**583 км²** – памер запаведнай зоны Белавежскай пушчы (амаль 40% ад агульнай плошчы тэрыторыі).

Белавежская пушча – гэта ТВП (Тэрыторыя, важная для птушак) міжнароднай значнасці. Сярод рэдкіх відаў тут сустракаюцца чорны бусел, звычайны асаед, малы і вялікі арляцы, шэры журавель, шэрая кугакаўка, баравы жаўрук.

Белавежская пушча – дом для многіх відаў, якія сталі вельмі рэдкімі ў іншых кутках Еўропы: ад стракоз і кажаноў да рысяў і зуброў. Вялікія арляцы, ваўкі і дзясяткі іншых відаў адчуваюць сябе тут спакойна. Гэты лес сфарміраваўся такім, якім мы яго бачым, дзякуючы таму, што ўсе кампаненты лясной экасістэмы заўсёды прысутнічалі тут. І ваўкі не выключэнне. **Адзін з асноўных накірункаў праграмы – ваўчыны.**

## Навошта лесу ваўкі?

У экалогіі лесу ваўкі з'яўляюцца самым важным кампанентам. Прычым не толькі для нашых запаведных тэрыторый, але і для любога буйнога ляснога масіва. **Воўк – драпежнік найвышэйшага ўзроўню, і яго ўплыў распаўсюджваецца на ўсю экасістэму.** Шэры звер рэгулюе колькасць сваіх асноўных ахвяр – капытных жывёл, іх прасторавае распаўсюджванне. Такім чынам ваўкі ўплываюць на працэсы натуральнага аднаўлення лесу.

## Лес без воўка – несапраўдны лес.

Белавежская пушча – першая прыродная тэрыторыя Беларусі, дзе для правядзення даследаванняў уведзены **мараторый на паляванне на воўка.**

**30** – столькі **ваўкоў** водзіцца ў Белавежскай пушчы. Усяго ў нашай краіне **не больш за 2000** ваўкоў. Гэтыя жывёлы, насуперак казкам, не ядуць людзей, не крадуць цялят і авечак з фермаў. Воўк – жыхар дзікай прыроды, і здабычу ён знаходзіць там жа.

## Як мы вывучаем ваўкоў?

Паводле якіх законаў жывуць ваўкі, у чым іх лясная роля і што ў нашыя дні ўяўляе сабой жыццё гэтага драпежніка? Навукоўцы шукаюць адказ на гэтае пытанне дзякуючы ўнікальнаму даследаванню.

**Восенню 2015 года ў Белавежскай пушчы адмысловымі ашыйнікамі з GPS-перадатчыкамі было пазначана пяць ваўкоў.** Прылада дасылае СМС-паведамленні пра перамяшчэнні звера, каардынаты прыходзяць наўпрост на тэлефон навукоўцам. Гэта дае магчымасць "хадзіць за воўкам" і здабываць карысную інфармацыю, якую немагчыма атрымаць іншым чынам.

**Віктар Фянчук**, каардынатар прыродаахоўнага праекта:



*– Дзякуючы ашыйнікам мы атрымліваем інфармацыю пра тое, як і дзе ў пушчы ходзіць воўк, чым харчуецца, якое становішча займае ў экасістэме. Такі падрабязны аналіз экалогіі звера, якога звыклі баяцца і знішчаць без высвятлення акалічнасцяў, дазволіць нам паказаць яго ролю ў Белавежскай пушчы. У "ваўчынага" праекта не толькі навуковая мэта, але і асветніцкая. Прыйшоў час зразумець, што воўк – не шкодны драпежнік і не канкурэнт у паляванні на аленя, а важны элемент экасістэмы.*





Маладыя ваўчаняты пушчы спадзяюцца на працяг мараторыя



## Пра што нам расказалі ашыйнікі?

Навукоўцы ўжо атрымалі шмат цікавых звестак пра белавежскіх ваўкоў. І гэта не апошняя кропка: даследаванні працягваюцца. Пажадаем поспехаў і новых адкрыццяў!

**180-220 км²** – прыкладна такую тэрыторыю займае зграя ваўкоў у беларускай частцы Белавежскай пушчы. Параўнаем: у польскай частцы гэта 200-350 км².

**Воўк-адзіночка** – бываюць у пушчы і такія, без зграй. Адзінокія самцы актыўна перамяшчаюцца паміж Ружанскай і Белавежскай пушчамі. Такія жывёлы могуць карыстацца куды большай тэрыторыяй – да 1000 км². **Самцы** перасоўваюцца значна **актыўней за самак.**

**Бабёр** – немалая частка абедаў і вячэраў беларускіх ваўкоў. Навукоўцы, якія ходзяць па слядах ваўкоў з ашыйнікамі, часцяком знаходзяць на "стале" ў шэрага менавіта гэтую жывёлу. Гэта сведчыць пра тое, што ваўкі не даюць бабру празмерна размнажацца. Напрыклад, суседзі-палякі пра сваіх ваўкоў такіх звестак не маюць.

**"Свае ваўкі".** Нашы ваўкі не заходзяць за дзяржаўную мяжу. Гэта добра бачна на картах двух зграй, з якіх у нас ёсць памечаныя ваўкі. Чаму так адбываецца? Таму што **польскія зграі мацнейшыя за беларускія**. Генетычныя даследаванні паказалі, што польскія зграі, як і мае быць у ваўкоў, сямейныя: складаюцца з бацькоў і дзяцей з вывадка гэтага і мінулага года. Беларускія зграі з-за палявання на іх больш слабыя, яны вымушаны прымаць да сябе ваўкоў з іншых зграй.



Нашы ваўкі не ходзяць за мяжу



Тэрыторыя самца даволі вялікая: дайшоў аж да Ружанаў!

## Як хадзіць па пятах за ваўкамі?

У падтрымку праекта з кастрычніка пачне працаваць "Ваўчыны блог". На **www.vouk.by** можна будзе паглядзець, дзе ходзяць ваўкі з ашыйнікамі, і крыху адчуць сябе ў ваўчынай скуры.

У кожнага ваўка ў блогу ёсць адмысловая старонка. Заходзьце знаёміцца!



**Яся** – самая камунікабельная ваўчыца: не баіцца людзей, ходзіць каля папулярных веламаршрутаў пушчы. Сігналы прыходзяць рэгулярна.



**Васіль** – самы вялікі і дужы воўк. Пасля атрымання ашыйніка сышоў з пушчы на ваенны палігон каля Пружан, таму сігналы дасылае нерэгулярна. Чакаем новых СМС, Васіль, мы хваляюемся!



**Наста** – самая маладая ўдзельніца праекта, ёй 1 год. Навукоўцы перасталі атрымліваць сігналы ад Насты ў канцы студзеня 2016 года. Але турбаванні былі заўчаснымі: аўтаматычныя фотакамеры, што стаяць у лесе, падказалі даследчыкам, што ашыйнік перавярнуўся, таму GPS-модуль не працуе. Чакаем навін і часу, калі ашыйнік зноў вернецца на сваё месца. Шчаслівай зімы, Наста!



**Марыя** – самая мініяцюрная ўдзельніца праекта (29 кг). Яна не любіла шмат хадзіць і трымалася сваёй тэрыторыі. Але, на жаль, загінула ў красавіку гэтага года падчас шпацыра ў суседнюю вёску. Ёсць меркаванне, што пацярпела ад мясцовых сабак.



**Шэры** – самы першы ўдзельнік эксперымента. На жаль, забіты падчас палявання праз месяц пасля атрымання ашыйніка, негледзячы на мараторый.

Яшчэ ў нашым праекце ёсць адзін воўк з каляровым ашыйнікам (без GPS). Ён часам дасылае нам фотаздымкі дзякуючы аўтаматычным фотакамерам.

## Новыя ашыйнікі!




Восенню яшчэ тры ваўкі атрымаюць ашыйнікі і будуць дасылаць нам СМС. Сачыце разам з намі: такога больш нідзе не даведаешся!



## Хочаш дапамагчы запаведнаму лесу і яго жыхарам? Ахвяруй на вывучэнне ваўкоў!

Ваша ахвяраванне дапаможа набыць новыя ашыйнікі для ваўкоў: жывёлы будуць слаць навукоўцам важныя СМС-паведамленні пра свае перамяшчэнні! Падрабязнасці – з кастрычніка на **www.vouk.by/support**

## Чаму воўк паляўнічым не канкурэнт?

Зграя ваўкоў здабывае капытных прыкладна кожныя два дні. Калі ў выніку палявання на ваўка зграя разбіваецца на дзве, то ўжо дзве зграі працягваюць здабываць ежу практычна з такой самай інтэнсіўнасцю.

Кожны дзень воўк спажывае прыкладна 5 кг ежы, у тым ліку воўну і косткі. 47 капытных жывёл – столькі ў год прыходзіцца на аднаго ваўка. Да такой лічбы прыйшлі польскія даследчыкі. Але не спяшайцеся пужацца: палова здабычы – так званая натуральная страта. То бок кволыя жывёлы, якія ў любым выпадку загінулі б. Такім чынам воўк выконвае функцыю выбракоўвання слабых асобін са статку, а не крадзе лепшую здабычу ў паляўнічых.

*– Асноўную "працу" ваўка – рэгуляванне колькасці і структуры папуляцый капытных жывёл у дзікай прыродзе – ні адзін самы лепшы паляўнічы выконваць не ў стане. З гэтым справяцца толькі ваўкі, – упэўнівае Віктар Фянчук. – Прысутнасць ваўка на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях (ААПТ) дазваляе захаваць від, які на іншых тэрыторыях паўсюдна знішчаецца. Наяўнасць воўка прыводзіць да больш натуральнага функцыянавання і развіцця ахоўнай прыроднай экасістэмы. А гэта з'яўляецца мэтай кожнай ААПТ.*

Спадзяёмся, цяпер вы перакананыя, што воўк – гэта не той страшны звер, якога ўяўляе сабе большасць людзей. Калі ласка, просім вас падзяліцца гэтай інфмармацыяй! Павесьце нашы "ваўчыныя старонкі" ў школе, на працы, у пад'ездзе! Падарыце паляўнічаму, які марыць забіць ваўка. Прапануйце сваім дзецям намаляваць добрага ваўка. Разам мы зможам змяніць даўняе, несправядлівае і зусім незаслужанае стаўленне да разумнага і неабходнага кожнаму лесу звера. Разам для ваўкоў і людзей!

# Запаведная справа

**Чым яшчэ жыве вялікі Прыродаахоўны праект для Белавежскай пушчы? Прапануем вам агляд ад кажаноў да паўторнага забалочвання і аднаўлення экасістэм. Натхняйцеся і далучайцеся: на некаторых этапах нам патрэбная ваша валанцёрская дапамога! Будзем рабіць важныя прыродныя тэрыторыі запаведнымі разам!**

## "Вока" Белавежскай пушчы

**З восені-2013 у Белавежскай пушчы з'явіліся "вочы": 25 аўтаматычных камер спрацоўваюць на з'яўленне жывёл і вядуць свой "летапіс" запаведнага жыцця.**



Навошта падглядаць? Так навукоўцы сочаць, як звяры рэагуюць на павелічэнне запаведнай зоны. Камеры дапамаглі ў пашпартызацыі рысі, аналізе капытных, атрыманыя цікавыя дадзеныя па янотападобным сабаку і барсуку. Даследаванні працягваюцца. А цікавыя фотаздымкі можна знайсці штонядзелю ў сацыяльных сетках АПБ і штомесяц на сайце АПБ **www.ptushki.org!**

**600** – столькі фота- і відэасюжэтаў штомесяц атрымліваюць даследчыкі.







## Вялікі арлец

Колькасць вялікага арляца імкліва падае ў Еўропе. У той жа час у Белавежскай пушчы колькасць гэтага "эталона" запаведнасці паступова расце. Гэта кажа пра натуральнае аднаўленне экасістэм нацпарка. Бо вялікі арлец жыве там, дзе жыве дзікая прырода.

У межах праекта збіралі рэшткі ежы, арнітолагі кальцавалі птушанят. Упершыню для пушчы прымянілі пазначэнне каляровымі кольцамі. Гэта дало свой вынік: зімой белавежскага арляца ў Ізраілі сфатаграфаваў мясцовы фатограф. У сезоне 2016 праверана 7 гнездавых тэрыторый, 5 з якіх – паспяховыя. Трое птушанят акальцавана. Пушчанская папуляцыя застаецца стабільнай, з тэндэнцыяй да росту.



## Вывучэнне рукакрылых

У межах праекта ў Белавежскай пушчы за кажанамі сачылі з дапамогай высокатэхнічных "бэт-кодэраў". Адмысловымі міні-радыёдатчыкамі, пазначана 16 самак кажаноў. Гэта найноўшы метад назірання, выкарыстоўваўся ў Беларусі ўпершыню.



Усе знойдзеныя калоніі месціліся ў старых дуплістых або памерлых дрэвах, і толькі адна – у будынку. Гэтыя дадзеныя – непасрэдны доказ таго, як **важна захаванне стараўзроставых лясоў для рукакрылых.**

## Барацьба з дубам чырвоным

**1300 га** – на такой тэрыторыі будуць змагацца з дубам чырвоным, небяспечным амерыканскім "перасяленцам". Ен "прапісаўся" ў пушчы з мінулага стагоддзя як дэкаратыўны від, але сойкі актыўна распаўсюджваюць насенне і цяпер у пушчы расце больш за 40 000 дрэваў! Якія выцясняюць "беларусаў" – чарэшчаты і скальны дубы (Чырвоная кніга). Навукоўцы б'юць трывогу: калі не прымаць мераў, праз сто гадоў пушча стане зусім іншай! Працы па выдаленні гэтага дуба пачаліся ў 2016 годзе.



## Паўторнае забалочванне

**1100 га** – такую плошчу плануюць "вярнуць" балоту Дзікі Нікар, якое патрапіла пад меліярацыю ў 70-х гадах. Велізарнае балота плошчай больш за 7 тыс.га знаходзіцца ў сярэдзіне нацпарка і мае ўплыў на вялікую тэрыторыю, таму было абранае першым для паўторнага забалочвання. Раней тут жылі вяртлявыя чаротаўкі і вялікія арляцы, іншыя знікаючыя віды. Трэба вянуць ім дом! Далей плануецца "вяртанне" іншых асушаных балот.



Праект у падтрымку запаведнасці стаў адной з тэмаў дакументальнага фільма AnimalPlanet (Europe) Discovery. Паглядзець фільм "Беловежская пуща. Первозданный лес" можна на сайце Нацыянальнага парка, АПБ або на Youtube.



**Аляксандр Буры**, генеральны дырэктар Нацыянальнага парка "Белавежская пушча":

*– Многія пытанні, узнятыя ў межах гэтага праекта, варта ўздымаць на ўзроўні не аднаго нацпарка, а на ўзроўні ўсёй краіны. І мы будзем старацца распаўсюджваць гэты досвед. Сённяшнія даследаванні будуць пакладзеныя ў аснову нашай практычнай працы. Вынікі даследаванняў дапамогуць даказаць, што важна рабіць для аховы прыроды менавіта цяпер, бо заўтра можа быць ужо позна.*

У красавіку 2016 года Белавежская пушча, АПБ і ФЗТ падпісалі супольны план дзеянняў на 2016–2017 гады. У дакуменце – працяг пачатай працы і новыя крокі ў бок вывучэння і падтрымкі запаведнасці.

Як далучаць людзей да запаведнасці? Мы працуем з супрацоўнікамі пушчы, журналістамі, мясцовымі жыхарамі. Нам вельмі важна, што ўсё больш людзей з розных куткоў Беларусі ведаюць пра карысць ваўкоў, важнасць мёртвай драўніны і змогуць палічыць узрост аленя па рагавых адростках.

Ахова прыроды – гэта праца, якая не дае хуткіх вынікаў і яркіх лічбаў. Гэта няпростая штодзённая праца, якая можа даць плён толькі праз некалькі год. Але менавіта такі падыход дазволіць нам ганарыцца прыродай Беларусі.

Ахова птушак Бацькаўшчыны

АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый

BirdLife INTERNATIONAL

© АПБ, 2016 Інфармацыйны бюлетэнь ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
Галоўны рэдактар: Аляксандр Вінчэўскі
Рэдакцыйная калегія: Віктар Фянчук, Ганна Трафімчук, Вікторыя Церашонак, Мікалай Чэркас, Ігар Бышнёў
Карэктар: Надзея Вішнеўская
Верстка: Міхаіл Пракапенка

№ 3 (60) 2016 год
Рэгістрацыйны №726 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас: © АПБ, 220114, вул. Парніковая 11, пам. 4, Мінск, Беларусь
Тэл. (017) 369 76 13
Факс (017) 265 08 11

(029) 223 06 13 МТС,
(029) 101 68 87 (velcom).
E-mail: info@ptushki.org
Сайт: www.ptushki.org

Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім таварыствам аховы птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

Наклад паас.
Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на Інфармацыйны бюлетэнь
Замова №

У выданні выкарыстаны фотаздымкі наступных аўтараў: П. Аляксееў, В. Каскевіч, В. Церашонак, R. Segali, а таксама фотаздымкі з архіва АПБ.